# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 23 (1569) ГОД XXXI БЕЛАСТОК 8 ЧЭРВЕНЯ 1986 г. ЦАНА 10 зл.


## Вадасховішча... і ІНШАЕ

Ужо ад нейкага часу прывыклі мы, што ў Семяноўцы і яе ваколіцы штосьці будуецца. Будуецца, кажуць, і хаця канец таго будавання далёкі, усё-такі праз год або два надыйдзе і ён. Але да справы.

Галоўная мэта пабудовы вадасховішча „Семяноўка“ — гэта ліквідацыя выступаючай у нашым ваяводстве нястачы вады. А менавіта „Семяноўка“ мае гарантаваць забеспячэнне вадой звыш 30-ці тыс. га лугоў ды ворыўнай зямлі ў наваколлі, пастаўку каля 17 млн. м² вады на камунальныя і прамысловыя патрэбы Беластока, а таксама, між іншым, рэальныя ўмовы адпачынку і спорту для 80 тысяч жыхароў ваяводства.

Паводле праекта, пад ваду трапіць 150 квадратных кіламетраў з паверхні гмінаў Нараўка і Міхалова. Зямля, якая будзе заліта вадой, у большасці належыць да V і VI класаў, значыць, амаль няўдобіца. Яна не была меліяравана і вельмі часта не было магчымасці адпаведна на ёй гаспадарыць.

Аўтары праекта вадасховішча пераконвалі ў правільнасці вы-

(Праця на стар. 3)



Улетку над рэчкай. Фота Э. Трыгубовіча.

## СВЯТА БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ Ў БЕЛАСТОКУ

**У Беластоку ў будучую суботу і нядзелю (14 і 15 чэрвеня г.г.) Галоўнае праўленне Беларускага грамадска-культурнага таварыства арганізуе вялікую імпрэзу ў гонар 30-годдзя БГКТ і „Нівы“.**

**Гэта будзе маніфестацыя тых прагрэсіўных пераўтварэнняў, якія наступілі ў жыцці беларусаў пры народнай уладзе. Яна будзе спрыяць умацаванню братэрскай еднасці беларусаў і палякаў, іх згоднаму сужыццю і ўзаемнаму пашанаванню. Наша супольнае жаданне: жыць у міры, ахвярна працаваць для ўмацавання і ўзбагачэння нашай супольнай Айчыны — Народнай Польшчы.**

**На масавых імпрэзах беласточчане і прыезджыя пазнаёмяцца з дасягненнямі беларускага мастацкага аматарскага руху і выдавецкай дзейнасцю БГКТ.**

**У суботу, 14 чэрвеня г.г., а гадзіне 15-й у зале кінатэатра „Форум“ адбудзецца ўрачыстае адкрыццё Свята беларускай культуры. Затым пакажуць свае выканаўчае майстэрства пераможцы ў сёлетнім конкурсе БГКТ — самадзейныя тэатральныя калектывы. Пры нагодзе ў фае можна будзе пазнаёміцца з выстаўкай выданняў БГКТ, набыць многія з іх, а таксама здабыць доўгаіграючую пласцінку з беларускімі песнямі ў выкананні славутага беларускага спевака Міхася Забэйды-Суміцкага. Можна будзе палюбавацца блізкімі сэрцу краявідамі на фотавыстаўцы „Родныя мясціны“ прадбачаны і іншыя выстаўкі. Уваход вольны.**

**У нядзелю, 15 чэрвеня г.г., таксама а гадзіне 15-й у Амфітэатры пачнецца Вялікі канцэрт беларускай песні ў выкананні салістаў і калектываў з розных мясцовасцей Беласточчыны. Білеты па 200 злотых будуць прадавацца, пачынаючы з панядзелка, 9 чэрвеня, у Галоўным праўленні БГКТ, вул. Варшаўская 11, у гадзінах 8-15, а таксама пры ўваходзе ў Амфітэатр. Дакладнейшыя інфармацыі па тэлефону — 317-18.**

**На старонках нашага тыднёвіка з нагоды Свята беларускай культуры ў Беластоку будуць змешчаны цікавыя артыкулы і тэксты найлепшых песень, якія пачуюцца са сцэны Амфітэатра. Запрашаем!**

## ПРАЦАЎНІК ПЕСНІ

Пётр Нявінскі — настаўнік, музыкант, дзеяч культуры. Належыць да тых людзей, якія незвычайна заслужыліся ў творчай працы з песняй, у шырокім і бурлівым развіцці мастацкага руху на ўсходняй Беласточчыне. Ужо 45 гадоў гэты чалавек робіць сваю гіганцкую працу, астаючыся пры гэтым працаўніком ціхім і скромным. Можа, таму і не вельмі бельскія культурныя ўлады, ды і беластоцкія, любяць падкрэсліваць яго несумненныя заслугі ў станаўленні і развіцці культуры на Беласточчыне ў пасляваенны час.

Нявінскага прывыклі мы бачыць заўсёды як бы ён зросся з акардэонам. Таму, калі наведала я яго на кватэры ў Бельску і сустрэў ён мяне без інструмента, адразу як бы і не пазнала. „Ці заслужыў я аж на такі вялікі гонар?“ — спытаў, пачуўшы, што я прыехала гаварыць аб ім і аб ім напісаць у „Ніве“.

Звесткі біяграфічныя. Пачаў вучыцца іграць на гармоніку яшчэ будучы ў пачатковай школе, там пазнаў ноты, „бо тады яшчэ вывучалі ноты ў школе“. Год часу вучыўся ў школе ў Вільні і там іграў у школьным калектыве. Потым у Бельску, у праф. Кулешы ўзяў крыху прыватных лекцый. Іграў на вяселлях з яўрэйскім калектывам, што існаваў у Бельску. І так гармонік, а потым акардэон, ды і іншыя інструменты прыцягнулі яго да сябе на ўсё жыццё.

А сур'ёзная, творчая і культурная праца з песняй, музыкай і людзьмі пачалася пры Савецкай уладзе. Пётр Нявінскі ўспамінае:

— Былі гады 1939-41. Савецкая ўлада прапагандавала шырокі аматарскі рух. У Бельску гэтай працай заняўся праф. Евец — выкладчык Варшаўскай кансерваторыі, які ўцёк ад немцаў і застаўся ў нашым горадзе. Ён сабраў інструментальны калектыў, змешаны хор і балет з 12 пар. Калі хор ці балет выязджалі на вёскі, а выязджалі часта, я акампаніяваў ім на гармоніку. Гэта былі добрыя часы для культуры. Перарыў наступіў пры акупацыі. Я працаваў крыху шаферам, а калі пачуў, што за Бранскам паявіліся савецкія партызаны, уцёк туды — адтуль, з Сямян, з праваслаўнай сям'і родам мая маці. У горадзе небяспечна было заставацца. Мая сям'я яшчэ да вайны праследавалася за камунізм. Помню, заўсёды перад 1 Мая ў хаце нашай паліцыя рабіла рэвізіі. Брат Міхал быў камуністычным дзеячом.

— А як узнавілі вы працу ў новых абставінах?

— Пачалося ўжо летам 1944 года. Савецкія войскі стаялі яшчэ ў Бельску. Сустрэў я неяк калегу Юзка Вуйціцкага, ён быў у складзе Камітэта Нацыянальнага Вызвалення ў Бельску, і ён запрапанаваў мне арганізаваць канцэрт для салдатаў-вызваліцеляў. Далі мы першы канцэрт і пасля гэтага залічылі мяне ў савецкую вайсковую часць. Удзельнічаў я ў армейскім калектыве песні і танца да студзеня 1945 г., а потым быў пераведзены ў II Армію Войска Польскага, таксама ў музычны калектыў.

— А як вы трапілі зноў у Бельск?

— Пасля дэмабілізацыі я асеў

(Праця на стар. 5)

## ПОГЛЯДЫ

# ЯКІМІ СТАЛІ СЁННЯ ЛЮДЗІ

Што гэта з людзьмі робіцца? Сядзяць па хатах і ніхто нікому не патрэбны! Кажуць, што гэтаму свет вінаваты. Але ж свет заусёды быў такі, які мог быць, толькі людзі на ім зменяюцца. Вось да вайны зусім іначай было. Сама я гэта памятаю. Бывала, выйду на падворак і чую, як моладзь песні спявае. А ў суботы дык і да паўночы, або музыкі ладзяць. Весела было, хоць і бедна. Цяжка жылося, цяжка працавалі ўсе, а весялей нейк. Усё рукамі рабілі, скулаў даставалі, але і сіла неяк была, мацата аднекуль бралася. І спявалі, і танцавалі. А цяпер?

Хоць некаторым тады хлеба да Каляд толькі хапала, а ў жніво елі зялёныя яблыкі і лебяду, аднак былі людзі прылюднейшыя ад цяперашніх. Цяпер мала хто да каго заходзіць, усё нейкую прычыну знойдуць, каб толькі не пайсці адзін да аднаго: а то задалёкая сваячка, а то часу таго ўсё няма і няма, а то хвароба нейкая прычапілася... Чаму часу няма? Усё машынамі робяць гаспадары, жніво пару дзён усяго, не тое, што калісьці тыднямі спіны гнулі з сярпамі ў руках на палосках далёкіх, абліваючыся потам ад угрэтае сонцам раллі. Жанчыны не ткуць і не прадуць, і нават кароў многія самі не доіць, а даілкамі электрычнымі, хлеба свайго не пякуць, у краме купляюць, і пірагі на свята пякарня ГСу пячэ, і дзяцей у прадшколлі паадавалі, і ў халадзільнях паўгатовыя стравы трымаюць, і ўсё часу мала гэтым людзям. Дык калі ж ужо гэты час будзе? Да вайны ледзь з духам жылі, працаю тою мала не падушыліся, і час, на дзіва, быў у людзей. А цяпер сядзе ў мяккае крэсла і глядзіць тэлевізар. Вось часу і няма.

І яшчэ што відаць: людзі цяпер вельмі неахвотна адзін другому дапамагаюць. Часамі толькі, хто чарку любіць, то за тую ж чарку — „за паўлітру" — і зробіць каму штось, быццам з ласкі вялікапанскае. Распанеў народ наш, што аж не верыцца! Грошай тых мае поўна, за абы-якую работу тысячы бярэ. А ўсё і ўсе наракаюць, што кепска ім жыць. Гэта жарты такія паявіліся ў людзей, ці дурнота ўжо?

І смерць мала каго ўжо турбуе. Даўней нябожчыка праводзілі на могілкі цэлаю вёскаю, свае і чужыя яму. А сёння — добра, калі хоць пару сваякоў прыйдзе на паніхіду і на пахаванне. А рэшта і не пацікавіцца, хто памёр. Вось якія часы ідуць.

І замуж дзяўчаты выходзяць абы-як, пераважна ўжо з „жыватамі" пад бараду! Некаторыя і зусім не выходзяць, аліменты бяруць, ды што з тых аліментаў, калі ў дзіцяці няма бацькі. Грошы не заменяць бацькі. І мужчыны падурнелі, каханак сабе заводзяць не толькі па мястэчках, але і па вёсках цяперашніх. І жонцы дзяцей надасць, і каханцы, а сам ходзіць ды пасміхаецца, як ненармальны які! П'е дзень у дзень, грашмі раскідаецца, гаспадарку ў пустапаш аддае. І моладзь такая вырастае, без ніякай пашаны да старых, працецкая і вульгарная. Драпежная на грошы, дурная ў культуры, лёгкая на ашуканства, словам, адны шанцоўнікі нам растуць, лёгкахлебнікі.

**Аўрора**



# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

### У ПРЭЗІДЫУМЕ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА БЕЛАРУСКАЙ ССР

Адбылося чарговае пасяджэнне Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР.

Прэзідыум абмеркаваў пытанне аб выніках разгляду прапаноў і заўваг, унесеных пастаяннымі камісіямі і дэпутатамі Вярхоўнага Савета рэспублікі пры абмеркаванні плана і бюджэту на 1986 год.

Адзначана, што некаторыя міністэрствы, дзяржаўныя камітэты і ведамствы, мясцовыя Саветы народных дэпутатаў рэспублікі не прынялі належных мер па ажыццяўленню прапаноў і заўваг пастаянных камісій і дэпутатаў, слаба выкарыстоўваюць наяўныя рэзервы і магчымасці для павышэння эфектыўнасці вытворчасці.

Дзяржплан, міністэрствы і ведамствы не поўнасцю забяспечылі давядзенне планавых заданняў па вытворчасці тавараў народнага спажывання і аказанню платных бытавых паслуг да аб'яднанняў, прадпрыемстваў і арганізацый у аб'ёмах, устаноўленых Рэспубліканскай комплекснай праграмай вытворчасці тавараў і паслуг. Не ўсюды прадпрыемствы і арганізацыі ўзгадняюць гэтыя заданні з мясцовымі Саветамі народных дэпутатаў.

Не прымаюцца неабходныя меры для рэалізацыі прапаноў і заўваг пастаянных камісій і дэпутатаў па пытаннях развіцця матэрыяльнай базы мясцовай прамысловасці рэспублікі, базы домабудавання, асабліва для будаўніцтва жылля ў вёсцы, далейшага паляпшэння медыцынскага, гандлёвага, камунальнага і культурна-бытавога абслугоўвання насельніцтва.

Была прынята адпаведная пастанова.

### У ДАПАМОГУ МЕЛІЯРАТАРАМ

Выпуск надзейнай і універсальнай тэхнікі асвоіў Мазырскі завод меліярацыйных машын. Першая прамысловая партыя аднадвальных кустарэзаў адпраўлена ў Наўгародскую вобласць Расійскай Федэрацыі. З іх дапамогай механізатары змогуць хутка расчышчаць угоддзі, выраўноўваць глебу.

Паскоранае асваенне земель Нечарназёмнай зоны краіны патрабуе прадукцыйнай тэхнікі. Каб кожны мелiяраваны гектар даваў праектную аддачу, каб павышалася ўрадлівасць, праекціроўшчыкі павінны працаваць у цесным кантакце з работнікамі вытворчасці. Па заказах меліяратараў Мазырскі завод мадэрнізаваў нядаўна шчылінарэзную машыну, знізіў яе металаёмістасць. Цяпер яна безадмоўна дзейнічае і на мінеральных, і на тарфяных глебах.

Зрабіць тэхніку манеўранай дапамагло ўкараненне універсальных шасі на базе вядомых у СССР марак трактароў К-701 і Т-130, якія расшырылі магчымасці навясных агрэгатаў. Новыя машыны здольны выконваць работу экскаватара, каналакапальніка, дрэнаўкладчыка. Прычым, для выпуску такой тэхнікі не спатрэбілася новых магутнасці — выручылі рэканструкцыя і пераасnашчэнне старых цэхаў.

У цяперашняй пяцігодцы прадпрыемства падвоіць аб'ём вытворчасці.

### СПОРТ

■ Два рэкорды ўстанавілі беларускія лёгкаатлеты: Г. Валюкевіч — рэкорд краіны у трайным скачку (17 м 75 см) у матчы сямі гарадоў Закарпацця, а таксама Л. Караткевіч — рэкорд краіны для юніёрак у кіданні дыска (64 м 42 см) у спаборніцтвах на першынство Мінска.

■ На чэмпіянаце Еўропы па мастацкай гімнастыцы сярод юніёраў вызначылася 13-гадовая школьніца з Мінска Святлана Багінская. У мнагаборстве яна набрала 39,525 бала і стала чэмпіёнкай кантынента. Спаборніцтвы праходзілі ў ФРГ.

■ У Глазаве прайшло першынство Савецкага Саюза па цяжкай атлетыцы сярод юніёраў. У катэгорыі да 67,5 кілаграма першым быў магілёўчанін Л. Лабачоў, да 90 кілаграмаў — юны атлет з Барысава Д. Сіняк.

# НА ЗАХАДЗЕ БЕЗ ПЕРАМЕН

### „СВАБОДА"

Восенню бягучага года ў ЗША будзе адзначацца 100-годдзе знакамітай статуі Свабоды, што грандыёзна высіцца на ўзбярэжжы Атлантычнага акіяна пры ўваходзе ў порт Нью-Йорк. Зараз у краіне вядзецца дзейсная падрыхтоўка да юбілею.

Гісторыя Свабоды ўнікальная, як унікальная і сама статуя. Гэта гіганцкая пабудова, якая мае постаць жанчыны, 93 метры вышынёй і 225 тон вагою. Яна была ўзведзена ў 1886 годзе, узведзена пераважна за кошт грашовых ахвяраванняў амерыканцаў французскага паходжання, якія вырашылі паднесці яе ў дар сваёй новай радзіме. У прыватнасці, французы сабралі тады аж 400 тысяч долараў. А 270 тысяч долараў на будаўніцтва пастамента пад фігуру Свабоды было сабрана па лініі камітэта, які арганізаваў амерыканскі выдавец Пулітцэр.

Яшчэ Свабода знакамітая тым, што яе стваральнікам быў шырока папулярны французскі скульптар Фрэдэрык Аўгуст Бартхольдзі. Скульптар скапіраваў твар статуі з твару сваёй вельмі набожнай маці, а постаць — са стану сваёй незабыўнай палюбоўніцы.

Ды і праект стальной арматуры для статуі быў заказаны не каму іншаму, а... Густаву Ейфелю, таму самаму Эйфелю, які крыху пазней узвёў сусветна вядомую парыжскую вежу, названую Эйфелевай вежай. Час зрабіў сваё. За сто гадоў статуя прыкметна падалася, яе закапцілі дымы загазаванага прамысловага нью-йоркскага паветра, кіслотныя дажджы парушылі яе гладкую паверхню, салёныя марскія вятры таксама ж спрыялі немінучаму разбурэнню матэрыялаў і нанеслі шматлікія трэшчыны і ракавіны.

Патрабуецца нямала вынаходніцтва і грашовых сродкаў, каб давесці статую Свабоды да ладу напярэдадні юбілею. На гэта давядзецца затраціць не менш як 230... мільёнаў долараў.

Але не цяжка сабраць такія вялікія грошы сярод амерыканскіх таўстасумаў. Наадварот, ідзе канкурэнцыя за тое, хто будзе мець гонар сабраць гэтыя ахвяраванні і каму павінен належаць гэты гонар па праву... Штаты Нью-Йорк і Нью-Джэрсі завялі паміж сабою публічную спрэчку наконт таго, хто павінен лічыцца гаспадаром статуі? Улады штатаў давялі справу да суда. У суд прадстаўлена пагадненне ад 1889 года, з якога вынікае, што тады ж бакі дамовіліся лічыць востраў, дзе статуя стаіць, і самую статую прыналежнасцю штату Нью-Джэрсі. Але адвакаты ад штата Нью-Йорк даводзяць, што статуя знаходзіцца на іх тэрыторыі і на гэтай падставе павінна быць прыналежнасцю штата Нью-Йорк. Канфлікт гэты мае зусім не прэстыжны характар. Галоўная, калі не адзіная, прычына тут — гэта двухмільённы штогадовы прыбытак, які атрымліваюць з кішэняў турыстаў, што наведваюць знакамітую ў свеце Свабоду.

Чым закончыцца гэтая спрэчка паміж двума штатамі, пакуль ніхто не можа прадказаць дакладна. А вось грошы на рахунак рамонту працягваюць паступаць. Вышэй названую суму ў 230 мільёнаў у большасці сваёй асігнавалі прадстаўнікі багатых кампаній. Яны не хаваюць сваіх намераў, адкрыта гавораць аб тым, што шчодра раскашэліўся, разлічваючы вярнуць свае затраты ў дзесяцікратным памеры. Выкарыстоўваючы ўсеагульна любімы „сімвал Амерыкі" ў якасці рэкламы сваіх разнастайных вырабаў можна стварыць яшчэ які капітал. Напрыклад, нават папулярна сціплая кампанія „Кока-кола" з лёгкасцю незвычайнай беззваротна выкала 5 мільёнаў долараў з умоваю, што ёй будзе дазволена паставіць на востраве свае кіёскі па продажу для турыстаў розных халодных напіткаў. А ці ж турыстам тут, каля статуі, патрэбна будзе толькі вады напіцца? Ім жа захочацца выпіць і яшчэ нешта больш моцнае і не толькі халоднае. Ім трэба будзе яшчэ паесці, значыць, патрабуецца і рэстаранное абслугоўванне. Ім трэба будзе недзе спыніцца пажыць, паначаваць, значыць, патрабуюцца новыя атэлі.

Барацьба ўжо зараз ідзе з прыкметным абвастрэннем.

**А.Л.**

ліла яго пры абеліску ў Крапіўне. З прамоваю выступіў I сакратар гмінна-гарадскога камітэта ПАРП у Дуброве (член пленума ГП БГКТ) Аляксандр Мазалеўскі:

„Вечная вам слава, салдаты вызваленчай Савецкай Арміі! Чэсць тваёй памяці, сяржант Іван Аляксееў! Чэсць табе, герой СССР Рыгор Кунавін, загінуўшы ў Гарасімавічах! Чэсць, Дзмітры Паўлінаў, загінуўшы ў Ячне. Схіляем галовы перад вашай смеласцю і гераізмам. Удзячны мы вам за прынесеную свабоду. Вы загарантавалі нам мір да сённяшняга дня".

„Ад імя жыхароў нашай вёскі Крапіўна складаю вам нізкі паклон, 74 невядомыя савецкія салдаты, і табе, сяржант Іван Аляксееў! Памяць аб вашым геройстве мы перадаем нашым дзецям і ўнукам. Мы будзем шанаваць ахвяру вашага жыцця гэтыя святыя месцы, дзе пралілася ваша кроў. Тут заўсёды будуць кветкі і свежыя галінкі яліны", — сказаў солтыс Крапіўнай Іван Сільвонік.

Урачыстасць перапляталася дэкламатарскімі выступленнямі школьнікаў з пачатковай школы імя Тадэвуша Касцюшкі ў Дуброве.

У заканчэнні ўрачыстасці, якую вяла Крыстына Суліма, былі ўзложаны вянкі, а затым прачытаны Заклік Ваяводскага камітэта абароны міру, які падпісалі ўсе прысутныя.

*

Улады Дубровы ўносяць дастойны ўклад у памяць савецкіх салдат загінуўшых у крывавай вайне з нямецкімі захопнікамі Яны ставяць сваёй задачай, каб нашыя нашчадкі ведалі, чым была вайна для народаў свету, якіх неверагодных сіл і ахвяр патрабавала яна.

— Мы ўвекавечым усе месцы, дзе пралівалі кроў і гінулі савецкія салдаты, а такіх месц на Дуброўшчыне ёсць звыш трыццаці, — гаварыў мне Станіслаў Шчэрба.

**Міхась Хмялеўскі**
Фота аўтара

(Працяг са стар. 3)

# Вадасховішча... І ІНШАЕ

стваралі сотні пакаленняў беларусаў, іх своеасаблівы фальклор і народная культура? Хіба і гэта згіне, бо ці магчыма, каб дрэва расло без карэнняў?

Хацеў бы я памыліцца...

Неяк прыпамінаецца мне ваенны і пасляваенны лёс Лукі. Нямецкія акупанты жыхароў выселілі, а вёску спалілі. Аднак, дзякуючы ахвярнай і настойлівай працы лучан пасля вайны вёска адрадзілася, ажыла нанава, каб жыць і гаспадарыць на сваім. Цяпер зноў Лука будзе выселена. Але ўжо назаўсёды... Як жа шкада, што такі лёс гэтага вялікага кавалка нашай зямлі.

**Юрка Ляшчынскі**




(Працяг са стар. 1)

# ПРАЦАЎНІК ПЕСНІ

у Лякове на Ніжнім Шлёнску, там ажаніўся. Там арганізаваў добры аркестр і іграў у ім. Ды вось аднойчы прыехаў у Бельск у водпуск. І тут сустрэў Таню Гіжэўскую, харэографа, танцавальшчыцу, выхаванку Шырмы. Яна да мяне: „Пецька, прыязджай у Бельск. Пры рашарні працуе калектыў песні і танца, ёсць добры хор". Вярнуўся я ў 1951 годзе і пачаў працаваць з Таняй.

— Памятаю, Таня Гіжэўская вяла балетную групу ў калектыве БГКТ у Беластоку ў канцы 50-х гадоў.

— Так, я таксама ездзіў з Таняй у Беласток і акампініраваў ім. Быў з калектывам і ў Гродне, тады хор вяла Зюлкоўская. Як бачыце, з Беларускім таварыствам я звязаны ад пачатку. З пабыўкі ў Гродна ў мяне засталася памятка — ноты з дэдыкацыяй кампазітара Семяняхі. А яшчэ помню з тых часоў — якія праходзілі фестывалі калектываў нацыянальных меншасцей! Мы выступалі на вялікіх сцэнах Варшавы.

— А дзе на Бельшчыне, на вёсцы вы стварылі і вялі першы калектыў?

— Першы быў у Педагагічным ліцэі ў Бельску, а на вёсцы — у Піліках. Там я працаваў 13 гадоў. Там мы стварылі вакальны і інструментальны калектывы. Людзі гралі на мандалінах і гітарах. О, то быў добры калектыў! Галасы якія! Ясюк і Вжэцёнка выступалі ў дуэце аж у Зялёнай Гуры.

— А давайце прыпомнім усе вашы калектывы.

— Працаваў я ў Орлі, Крывой, Плёсках, Дубяжыне, Дубінах, Плюцічах, Каменным Дварэ, Бранску, там вёў інструментальны калектыў мандаліністаў і гітарыстаў, у Чартаеве — у сельскагаспадарчым тэхнікуме, у Медыцынскім ліцэі ў Бельску, у Ліцэі выхавацельніц прадшколляў, у Беларускім ліцэі ў Гайнаўцы пры дырэктару Анастасіі Тропак. Усюды я браў савецкія песні і рыхтаваў людзей да конкурсу, а калі пачалі арганізаваць конкурсы беларускай песні, рыхтую і да гэтага конкурсу ўсе калектывы, з якімі працую.

— Цяпер не маеце ніводнага інструментальнага калектыву?

— Спачатку на вёсках я многіх вучыў іграць на мандалінах. Тады маладыя больш хацелі працаваць з інструментамі. Сядзелі, вучыліся. Цяпер тэлевізія паглынула многае.

— Хто прыходзіць у калектыў?

— Гэта па-рознаму. У Піліках была моладзь, якая ўжо не вучылася, у Крывой — працаўнікі спулдзельні прадукцыйнай, у Орлі — як і сёння, я Орлю часта ўспамінаю.

— А жанчыны ці мужчыны ахвотней?

— У мяне бывала па-рознаму. У Крывой — змешаны калектыў, у Дубяжыне — мужчыны, а адзін з іх, Алесь Рамашок, у конкурсе савецкай песні даехаў аж да Інаўроцлава.

— Ніхто не скажа, што лёгка быць такім вандроўным настаўнікам песні, я б акрэсліла нават — такім місіянерам нашай песні. А вы самі што на гэта?

— Многае вымагаецца, але гэта мая прафесія. Я ўвесь час па вёсках. Колькі разоў даводзілася ісці пехатою з гармонікам на плячах. Ды што пра гэта гаварыць — важная праца.

— Як пачынаецца праца з калектывам?

— Трэба быць прафесіяналам і здабыць аўтарытэт. Каб людзі хацелі працаваць, трэба працаваць самому з жалезнай дысцыплінай. Я не магу не прыехаць на рэпетыцыю, калі чакаюць людзі, таксама не магу спазняцца.

— Як падбіраеце рэпертуар?

— Вельмі шаную волю членаў калектыву. Мушу іх разумець і быць ім партнёрам, які, пазнаўшы магчымасці калектыву, падкажа яму, што спяваць, і разумна павядзе яго. Вазьміце Рыбалы. Хлопцы спяваюць добра, песні нялёгкія. Але спачатку яны самі не арыентаваліся, да чаго здольны былі. Ды сур'ёзнасць, дысцыпліна і цвёрдая цяжкая вучоба на рэпетыцыях



Пётр Нявінскі (у сярэдзіне, з гармонікам) з калектывам з Рыбалаў. Фота з архіва.

дазволілі калектыву ўзляцець высока. Прыслухоўваюся да іх галасоў і хацеў бы з імі не зыйсці з той вышыні, а нават узабрацца яшчэ вышэй.

— Рэпертуар мужчынскага калектыву ў Рыбалах вельмі заангажаваны.

— Заангажаванасць мяне не пакідае. Жывем у такія часы, што трэба прыпамінаць аб вайне, аб перамозе. А можа гэта крыху і прывычка з Савецкай Арміі, там была моц і сіла ў песні, а развучваць яе з намі прыязджалі нават прафесіяналы з Масквы.

— А цяжкасці ў працы?

— Пачну ад таго, што ўдзельнікі маіх былых і цяперашніх калектываў — то людзі цяжкай працы. Гэта трэба ведаць! Лёгка ім не прыходзіцца. Але калі я, напрыклад, прыязджаю ў Рыбалы і бачу, як Колька Ігнацюк прэ на рэпетыцыю і на хаду з рукі кусае спяшаючыся хлеб і каўбасу, то я гатоў яму пакланіцца, і лічу такіх людзей героямі. Трэба моцна шанаваць іх!

— А як з беларускім песенным рэпертуарам?

— Цяжка, няма песень.

— І гэта гаворыце вы, у каго поўныя паліцы зборнікаў песень?

— У мяне вялікі выбар рускіх песень, але беларускіх мала. Трохі ёсць, але людзі гэтага не хочуць, яны хочуць нешта новае, сучаснае. Чаму падабаюцца людзям песні „Песняроў", „Верасоў" і яны ахвотна з наслуху па радыё іх вывучаюць? Факт такі, што мы не маем доступу да сучаснай беларускай песні і музыкі ўвогуле. Ёсць у Мінску ўстановы, выдаецца рэпертуар. Калісьці я сам пісаў, ахвотна прыслалі. Чаму б аднак таварыству генеральна не заняцца гэтай справай, не выступіць з просьбай папоўніць рэпертуарны прабел усіх калектываў у Польшчы? Многа песень захоўвае народ. Трэба іх апрацаваць і выдаць асобным зборнікам для выкарыстання калектывамі. Гэта была б векапомная справа.

— Як ацэньваеце сёлетні конкурс „Беларуская песня"?.

— Кепска адчувае сябе калектыў, які не заняў ніякага месца. І кепска адчувае сябе яго інструктар. Я прысвяціў сябе вёсцы, з вясковымі калектывамі ўсё жыццё. І лічу, што пры такой масавасці конкурсу, пры такім абсягу, пры ўсё новых і новых калектывах спаборнічаць павінны: вёска з вёскай, горад з горадам. І не думаю, што вёска выпадзе ў гэтым горш. Ёсць масы слухачоў, якія захапляюцца жывымі народнымі калектывамі, якія ў старых народных касцюмах спяваюць аўтэнтычнымі народнымі галасамі свае непаўторныя песні. Не кожны можа быць Лукашуком. Абодва Лукашукі — бельскі і гайнаўскі — гэта спецыялісты высокага класа. Але я за народнасць. І тут трэба выпрацаваць ацэнкі, каб не крыўдзіць вясковых калектываў. Народ — носьбіт і захавальнік вечных крыніц нашай культуры і трэба гэта ацаніць. Пазволіць фальклорнай народнай песні ў выкананні шматлікіх вясковых калектываў, якія ёсць і якія будуць вырастаць, заняць належнае месца ў такім багатым і ўсё шырэйшым конкурсе, як „Беларуская песня".

Размову вяла і запісала
**Вера Леўчук**

## БІБЛІЯГРАФІЧНЫ КУТОЧАК

Bibliografia prac magisterskich i doktorskch z zakresu archeologii w Polsce w latach 1945—1980 Oprac. Białęcka F., Bochenek A. Polskie Towarzystwo Archeologiczne i Numizmatyczne, Komisja Archeologiczna. — Scripta Archaeologia T. I, Warszawa 1984.

**Niektóre prace dotyczące Podlasia**

1. Gierlach Bogusław: Podlasie we wczesnym średniowieczu; Uniwersytet Warszawski, 1961.
2. Gryciuk Franciszek: Osadnictwo wczesnośredniowieczne na Podlasiu; Uniwersytet Warszawski, 1972.
3. Krajewski Marek: Młodsza faza kultury amfor kulistych na Nizinie Mazowiecko-Podlaskiej; Uniwersytet Warszawski, 1964.
4. Łożny Ludomir: Elementy wierzeń pogańskich Słowian w kulturze średnowiecznego Mazowsza i Podlasia: Uniwersytet Warszawski, 1980.
5. Niewęgłowski Andrzej: Mapy kultury przeworskiej na Nizinie Mazowiecko-Podlaskiej we wczesnyın i środkowym okresie rzymskim; Uniwersytet Warszawski, 1956.
6. Pyrgała Jerzy: Mapy kultury przeworskiej w późnym okresie lateńskim na Nizinie Mazowiecko-Podlaskiej; Uniwersytet Warszawski, 1956.
7. Strupiechowski Jacek: Pradzieje powiatu siedleckiego; Uniwersytet Warszawski, 1964.
8. Tycholis Hanna: Przemysł tardenuaski na Mazowszu i Podlasiu; Uniwersytet Warszawski, 1953.
9. Węgrzynowicz Teresa: Kultura łużycka na obszarze Mazowsza i Podlasia; Uniwersytet Warszawski, 1969, praca doktorska.

**Prace dotyczące Słowiańszczyzny**

1. Burczak-Abramowicz Henryk: Koń w wierzeniach Prasłowian; UMCS w Lublinie, 1979.
2. Górkiewicz Barbara: Wczesnośredniowieczne rylce do pisania

(Працяг на стар. 8)

## МЕЛІЯРАЦЫЯ

**У Міхалоўскай гміне значныя плошчы зялёных ужыткаў — аж 8560 гектараў, з таго ліку ў індывідуальнай гаспадарцы — 6854. Зялёныя ўжыткі — адно з мясцовых натуральных багаццяў. Яны складаюць больш 30 працэнтаў сельскагаспадарчых абшараў.**

У мінулым годзе мелієравалі 207 гектараў сенажацяў і пашы, між іншым, у ваколіцы Кухмоў. Сёлета закончаць меліярацыю лугоў каля Казімярова. У другой палавіне мінулага года адрамантавалі дарогу на пашы жыхары Пянькоў.

Варта дадаць, што ў Міхалоўскай гміне добра развіта гадоўля быдла. У продажы малака тамашнія сяляне займаюць чацвёртае месца ў Беластоцкім ваяводстве. Даволі вялікіх поспехаў у гадоўлі жывёлы дабіліся жыхары Казімярова, Пянькоў, Новай Волі, Юшкавага Груда і Бандароў. (яц)

## ВІЦЕБСКАЯ „МАЛАДОСЦЬ" У ВАРШАВЕ

(Працяг са стар. 3)

„Прыдзі міленькі, чорнабрывенькі" і шмат, шмат іншых.

Штораз змяняліся касцюмы, на ўсё больш каляровыя, багатыя, расшытыя. Калектыў даў цэлы агляд колернасці, узорыстасці рэгіянальнай іншасці і багацця ўбору паўночна-ўсходняй Беларусі. Адны толькі фартушкі былі і вышываныя, і гафтаваныя, і карункавыя, і тканыя ва ўзоры, і закладаныя ў складкі і зборкі.

Паказвалі сваё майстэрства асобна і хор, і танцавальная група, і інструментальна-вакальны калектыў. А потым зноў разам усе. Асабліва спадабалася гледачам вязанка кадрыляў. Усё пачалося ад „Крупчэўскай кадрылі", як выкрыкваў на сцэне вядучы. Потым ён аб'явіў: „Каломенская, першае калена, завадное!" За ёю — „Каломенская рассыпуха", агульны круг управа і... „апошняя развітальная". Закончыўся канцэрт традыцыйным „Бывайце здаровы!"

Але доўга яшчэ не сціхалі апладысменты. Артысты бісавалі, наколькі хапіла ім сіл.

Асабліва ўзрушылася канцэртам моладзь — варшаўскія студэнты родам з Беласточчыны. У гарачыні сэрц, у парыве супольнай радасці перажытага кінуліся яны за кулісы — дзякаваць артыстам за добрае роднае мастацтва, за ўражанні. А маладыя артысты былі не менш узрушаны такім прыёмам. Хутка знайшлі супольную мову, пераднаёміліся, а ў наступныя дні правялі нямала супольных хвілін, расказваючы адзін другому аб сабе і спяваючы нашыя родныя супольныя песні.

**Яніна Чэрнякевіч**
Фота аўтара

## РОДНЫЯ КРАЯВІДЫ



У. Петрук. Млын у Станковічах на д Бугам. 1986. Графіка.

## КАМУ РЫНАК, А КАМУ ЦЫРК

Як штогод, так і ў гэтым годзе значная паверхня бельскага рынка адводзіцца пад цырк. У выніку таго сяляне, якія прывозяць сваю прадукцыю дзеля продажу, не змяшчаюцца і стаяць з фурманкамі дзе хто зможа: пад платамі, на вуліцах, тратуарах і г.д.

Але ж у межах Бельска ёсць іншы прасторны пляц! Дастасаваны ён да складу паліва і цяпер пустуе. У гэтае месца можна было б накіраваць цырк. Знаходзіцца ён паміж Бельскам і пасёлкам Студзіводы. Гарадскія ўлады Бельска, відаць, забыліся, што сялянам больш патрэбны рынак, чым цырк.

**В. Семянюк**

## ВАЕННЫЯ СЦЕЖКІ

## ДАРОГА ЦЕРАЗ МІНЫ

Адзіночнаму салдату мала чаго даводзіцца бачыць, бо яго круг назірання вельмі ж завужаны. З бегам часу такія важныя гістарычныя падзеі, як бітва за Монтэ-Касіна, абрастаюць, аднак, легендамі і становяцца крыніцай для народных быляў, у якіх рэчаіснасць перамешваецца з выдумкай або з пажаданым для расказчыка бегам здарэнняў і фактаў.

Іван Бартнічук не можа з'яўляцца тут выключэннем. Памятаючы аб гэтым, усё ж такі давайце супольна паслухаем тое, аб чым не адзін раз даўнейшы сапёр расказваў сваім суседзям, сябрам і субяседнікам. Яго словы перапісваю я тут з магнітафоннай стужкі.

— Везлі нас пад гэтае Монтэ-Касіна, што бараніла доступ да сталіцы Італіі. Быў май, навокал цвілі кветкі, спявалі птушкі, радавала сакавітая зеляніна. Атрымалі мы загад, каб праверыць палац Мусаліні — італьянскага фашысцкага правадыра, які і для Гітлера пракладаў шлях у дыктатуру. Наш паручнік, па прозвішчу Расецкі, родам з Беластока, быў яшчэ афіцэр малавопытны, але не зазнайны, спагадлівы чалавек. І маладзецкая неразважлівасць яго там згубіла. Не змог утаймаваць ён сваёй цікавасці і першы перад намі, сапёрамі, пабег у гэты палац, каб асабіста пабачыць, як жыў уладар жыцця і смерці мільёнаў італьянцаў. І не дабег. Напароўся на міну ды вылецеў у паветра. Любілі мы яго і шкадавалі. Бачылі, што ляжыць, бедняжка; ды крывавіць, а дапамагчы яму не было як, бо ніхто не ведаў, дзе ў густой траве тоіцца смерць. Давялося спачатку вельмі асцярожна і пільна слухаць, ці ў навушніках, спалучаных з міннымі шукальнікамі, не адазвуцца трывожныя, пранізлівыя сігналы. Гэта ў нашай сапёрскай гутарцы называлася пеленгацыяй тэрыторыі. Пакуль мы дабраліся да нашага паручніка, дык з яго ўжо ўся кроў выцекла, нават у санбат не спатрэбілася адстаўляць. Ды аказалася, што да гэтага палаца Мусаліні не варта было спяшацца. Стаяў ён апусцелы, аголены з усіх каштоўнасцей, толькі нейкія паперы лёталі ў паветры і засцілалі падлогу, а пустыя бутэлькі варочаліся пад нагамі... Значыць, ужо перад намі парадачна пагуляла тут не адна рота варожых салдат...

Ну, размінавалі мы гэты палац і пасля нас накіравалі пад гэтае Монтэ-Касіна. Зноў давялося нам ачышчаць дарогі і сцежкі ўсім іншым ваенным атрадам і цэламу нашаму войску. Сапёры заўжды ішлі першым эшалонам. А там горы ды горы, праходаў няма. І немцы, найлепшае, адборнае фашысцкае войска, адны эсэсаўцы, таксама хлебам-соллю нас не віталі. Іх разведка хутка раскусіла тайну альянтаў, што маюць яны справу з польскім войскам. Нават пачалі па радыё гаварыць папольску ды пасылаць нам куявякі, мазуркі і полькі. І насмейваліся з нас проста ў вочы: „Слухайце, людзі, навіну! — грымелі па радыё. — Польская свіння апарасілася на Монтэ-Касіна, будзе ўдосталь свежага мяса!" І як ударылі па нашых часцях і з гармат, і з танкаў, і кулямётаў, а найчасцей дык з мінамётаў... Сядзяць за гарой, схаваўшыся, ды з-за яе га-гак і га-гак з гэтых мінамётаў. Шкоды вялікай яны не ўчынялі, бо гэта зброя вельмі ж нятрапная, але затое чартоўскі свістучая. Пакуль упадзе і разарвецца, то ад яе свісту вушы лопаюць і здаецца, што вось-вось яна табе і толькі табе на галаву зваліцца. Хоч не хоч, пачынаеш бегаць, шукаць утульнага месца, каб хаця лоб недзе чымсьці прыкрыць... Кажуць, што гэта псіхалагічная зброя. Бачыце, як яно бывае: людзі ўсяму сваю назву прыдумаюць. Але перажыць атаку гэтай псіхалагічнай зброі — гэта ўжо зусім іншая справа. Чалавек сапраўды дурнее і пачынаецца нязладжаная бегатня, што горшае ад самога варожага абстрэлу. Пацякло, ой пацякло, тады нашай салдацкай крыві...

Я тут на момант перапыню

# ЯКІ Ў ВАС ХАРАКТАР?

Вы лічыце сябе добразычлівым чалавекам, добрай жонкай і маці, узорнай гаспадыняй, надзейным працаўніком... Але ці так лічаць вашы родныя і блізкія, сябры і калегі? Спадзяёмся, што наш тэст дапаможа вам гэта зразумець. Ён, вядома, жартоўны, але ўсё ж...

● Ці стараецеся вы да кожнага сезона купляць сабе што-небудзь з адзення, нават калі гэта не вельмі неабходна? Так — 3 ачкі, не — 0.

● Якім тканінам аддаеце перавагу — аднатонным (3 ачкі), набіваным (2 ачкі) ці ў вас няма пэўнай прыхільнасці да тых і другіх (0)?

● Які стыль выбіраеце для сябе: класічны (0), спартыўны (3 ачкі)) той, які модны (5 ачкоў), вастрамодны (7 ачкоў)?

● Ці хапае ў вас смеласці, каб у ліку першых надзяваць самыя экстравагантныя, вастрамодныя рэчы? Так — 5 ачкоў, у залежнасці ад абставін — 3 ачкі, не — 0.

● Ці аддаеце вы перавагу смелым спалучэнням колераў? Так — 5 ачкоў, зрэдку — 3 ачкі, не — 1.

● Ці любіце вы насіць: спартыўныя блузкі (3 ачкі), англійскія касцюмы (2 ачкі), спадніцы старога крою (1 ачко)?

● Які фасон капелюша лічыце лепшым: рамантычны, з шырокімі палямі (7 ачкоў), тыпу „турбан“ (4 ачкі), без палёў (2 ачкі) ці вы наогул не носіце капелюшоў (0)?

● Якія сумачкі вам больш падабаюцца? Спартыўныя на рэмені (4 ачкі), якія нагадваюць па форме куфэрак (3 ачкі), „канверты“ (2 ачкі), ці любыя, якія ў модзе (0)?

● Ці любіце вы туфлі на абцасе? Так — 3 ачкі, не — 0.

● Ваша любімае хатняе адзенне: доўгая спадніца з блузкай, джэмперам (5 ачкоў), штаны са світэрам (3 ачкі) ці проста данашваеце старыя рэчы (2 ачкі)?

● Якія ўпрыгожанні лічыце за лепшыя: пацеркі (7 ачкоў), брошкі (5 ачкоў), кулоны (3 ачкі), проста ланцужкі (1 ачко)?

● Вашыя любімыя ўзоры на тканіне: кветкі (7 ачкоў), гарошак (5 ачкоў), палосы (3 ачкі), геаметрычны малюнак (1 ачко) ці аддаеце перавагу гладкім, ненабіваным тканінам (0)?

А цяпер падлічыце ачкі.

Ад 5 да 11:

Вы чалавек асцярожны, не спяшаецеся раскрыць сваю душу, хоць заўжды далікатны ў абыходжанні з людзьмі. З цяжкасцю завязваеце новыя знаёмствы, але ўжо калі хтосьці заваюе вашу прыхільнасць, дык надоўга. Вы добрая гаспадыня, да дзяцей ставіцеся патрабавальна.

Ад 12 да 22:

Ваш характар супярэчлівы: без дай прычыны вы пераходзіце ад радасці да смутку, ад сумнага настрою да нястрымнай весялосці. Любіце жыць у пастаянным руху, часта мяняючы свае погляды. На рабоце вызначаецеся хуткасцю, кемнасцю, але такія перыяды часта змяняюцца днямі апатыі.

Ад 23 да 37:

Вы набліжаецеся да „залатой сярэдзіны“, вам лёгка з тымі, хто акружае вас, а ім — з вамі. Добра валодаеце сабой, вам уласціва добразычлівасць, а, калі патрэбна, і здольнасць на хуткую рэакцыю. Вам удаецца заваяваць давер нават тых, хто спачатку непрыхільна да вас ставіўся. Добра спраўляецеся з работай. Ваш дом — гэта спакойны прыстанак для сяброў.

Звыш 37:

Незалежна ад узросту вы — юная душой. Лёгка загараецеся і гэтак лёгка гаснеце... Уражлівасць, няўменне таіць свае пачуцці ствараюць цяжкасці ва ўзаемаадносінах з тымі, хто акружае вас, ускладняюць жыццё і іх, і ваша...




Даратое Сэрцайка! Нарадзілася я ў горадзе. Жыла ў маці сваёй, як у масле купалася. Бацькі вельмі дбалі пра мяне, рабілі ўсё, як я хацела, куплялі мне розныя дарагія рэчы. Было мне вельмі добра. Але адна справа мучыла мяне і мучыць будзе, пэўна, да скону. Я ад нараджэння была непрыгожым дзіцём, а з гадамі мая брыдота яшчэ больш паглыбілася. У той час, калі сяброўкі мае весела праводзілі час, хадзілі з хлопцамі на розныя вечары і забавы, я найчасцей сядзела ў хаце і глядзела тэлевізар — і тады, калі была яшчэ ў ліцэі, і тады, калі ўжо стала на працу. Было мне вельмі сумна, але ж мяне ніякі хлопец нікуды не запрашаў, а пайсці на забаву з сяброўкамі і пасля стаяць у кутку адной — не было сэнсу. У такіх сітуацыях мне рабілася ўдвая крыўдна.

Мама настаяла на тым, каб я выйшла замуж. Бо толькі сям'я ў жыцці лічыцца, гаварыла яна. Калі выйду замуж, то жыццё маё зменіцца і пазбудуся я комплексаў. Нехта з некім дагаварыўся, і мяне пазнаёмілі з хлопцам, які жыў на гаспадарцы з бацькамі. Мы пажаніліся. Мела быць усё цудоўна: я звальняюся з працы і прыязджаю да яго, а ў яго добры дом, нестарыя бацькі, якія абрабляюць гаспадарку, а я буду толькі даглядаць за домам і радзіць дзяцей.

Рэчаіснасць аказалася на многа горшай, чым уяўлялася мне. Свёкар са свякрухай загналі мяне да работы, аб якой я не мела ніякага ўяўлення. Ад раніцы да цямна: то кароў падаіць, то наварыць на цэлы дзень, у хаце прыбраць, свіней, курэй, гусей накарміць, абсціраць усіх, а тут ужо і з поля вяртаюцца, вячэру гатовую мець трэба.

Замучылася я зусім, высахла, і вось ужо 5 год як мы па шлюбе, а дзяцей не маем. Нікуды не ходзім, нічога не бачым, нават на тэлевізар часу не хапае. І часам мне прыходзіць у галаву страшная думка, каб уцячы адтуль, куды вочы глядзяць. Зрэшты, думаю, што бацькі прынялі б мяне, бо яны і самі ўжо бачаць, якая я нешчаслівая.

**Зося**

Зося! Шкада мне цябе. Ты — тыповы прыклад таго, як кепска расці перасаджанаму дрэву на чужой для яго глебе. Можа б гэтае дрэва і расло, калі б было вялікае каханне і добры догляд. Але ж на гэта ты, бадай, не можаш разлічваць, бо пакахаць адзін другога вы, бадай, не паспелі, а на нейкія асаблівыя да цябе адносіны ніхто, здаецца, часу не знойдзе. Вясковае жыццё ўсё ж даволі цвёрдае, і лепш было б, каб заставаліся там вясковыя дзяўчаты. Думаю, што калі няма ні кахання, ні дзяцей, можна было б у крайнім выпадку вярнуцца да бацькоў. Калі ты не старая, мо і табе яшчэ засвеціць твая зорачка.

**Сэрцайка**

# СОННІК

23

**Вустрыцы** (астрыгі) — незвычайнае здарэнне, есці — шчаслівая цяжарнасць; лавіць — нязьдзейсненыя зычанні.

**Вусце** ракі — вялікія даходы.

**Вусы** — пустая і прамінаючая маладосць; са срэбрам сівізны — пустая радасць.

**Вуха** — мець вялікія і прыгожыя — вялікае шчасце, верныя прыяцелі; мець многа вушэй — для тваіх памочнікаў і падначаленых дрэнна з табою; мыць — цябе любяць, прыемная навіна; затыкаць — хатнія клопаты і смуткі; доўгія — абгавор; аслiныя — наробіш глупстваў; хворыя — пакрыўдзяць цябе.

**Вучань** — клопаты і гнеў.

**Вучоны** — пашана.

**Вучыць** каго-небудзь — цябе акружаюць абмежаваныя людзі; мець добрае сэрца для ўсіх.

**Выбіраць** нешта — малыя прыкрасці.

**Выгнанне** — перамены ў адносінах з людзьмі.

**Выгрузіць** — хтосьці патрабуе твае дапамогі.

**Выдра** — шчасце ў хаце.

**Выйгрыш** — прыкрая прыгода.

**Выкапаць** — цікавыя лісты.

**Выклікаць** — памірышся з ворагам.

**Выкраданне** — неспадзявана хуткі шлюб.

**Выкруціць** штосьці — дрэнныя справы; блага пойдуць твае заняткі.

**Вымя** — блаславёнасць.

**Выпіваха** — выстаўляешся на пасмешышча.

**Выплочванне** — прымеш цяжкі абавязак.

**Выпрагаць** белых коней — любоўныя зносіны; вараных — непрыемная прыгода; іншай масці — раскрыеш падман.

**Высмейваць** — варожасць.

**(Працяг са стар. 6)**



z terenu Słowiańszczyzny wschodniej i zachodniej; Uniwersytet Wrocławski, 1970.

3. Maćkowiak Lidia: Zachodniosłowiańskie ostrogi o zaczepach haczykowato zagiętych do wnętrza; Uniwersytet Poznański, 1979.

4. Rogińska Małgorzata: Religijne wierzenia pogańskie na Słowiańszczyźnie zachodniej i wschodniej we wczesnym średniowieczu; Uniwersytet Wrocławski, 1965.

5. Sołowij Janina: Wczesnośredniowieczne obuwie na terenie zachodniej i wschodniej Słowiańszczyzny; Uniwersytet Wrocławski, 1967.

6. Wentkowska Anna: Obodrzycko-wieleckie srebrne ozdoby z X—XI wieku; Uniwersytet Warszawski, 1967.

7. Wierzbicka Ewa: Moneta anglosaska na terenach Słowiańszczyzny nadbałtyckiej we wczesnym średniowieczu; Uniwersytet Warszawski, 1971.

8. Wiśniewski Emil: Rozplanowanie grodów i miast na terenie Słowiańszczyzny we wczesnym średniowieczu; Uniwersytet Wrocławski, 1966.

9. Gąssowska Eligia: Elementy bizantyjskie w kulturze materialnej Słowian północno-zachodnich we wczesnym średniowieczu; Instytut Historii Kultury Materialnej PAN, 1975, praca doktorska.

10. Nowakowski Andrzej: Kultura pogranicza polsko-ruskiego w VIII — I poł. XI w. na południe od Prypeci; Uniwersytet Łódzki, 1971, praca doktorska.

11. Soldenhoff Bożena: Konserwacja elementów konstrukcji drewnianych na przykładzie wczesnośredniowiecznych grodzisk; Instytut Historii Kultury Materialnej PAN, 1972, praca doktorska.

12. Zoll-Adamikowa Helena: Rytuał ciałopalny Słowian na terenie Polski; Instytut Historii Kultury Materialnej PAN, 1968, praca doktorska.

13. Żak Jan: Kontakty handlowe społeczeństw zachodniosłowiańskich ze skandynawskimi w VI do VIII w. n.e.; Instytut Historii Kultury Materialnej PAN, 1960, praca doktorska.

P.C.

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

# „БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ-86" ДЛЯ ШКОЛЬНІКАЎ




„Нашы дзеці" — вакальны калектыў з бельскай школы № 3, якім кіруе настаўнік Сяргей Лукашук.



Вакальны калектыў з Беластока, вядзе яго лаўрэатка конкурсу для дарослых Аля Дубец.



Публіка. На першым плане дзяўчаткі са школы ў Дубінах.

Фота Яніны Чэрнякевіч.

## ВЫНІКІ КОНКУРСУ

18 мая ў Бельскім Доме культуры адбыўся цэнтральны агляд „Беларуская песня-86" для школьнікаў. Удзельнікі на цэнтральны конкурс былі выты[illegible] на раённых аглядах у Бельску, Дубінах, Беластоку і Орлі.

У цэнтральным аглядзе ўдзельнічала 21 саліст, 12 дуэтаў, 6 трыо і квартэтаў, а таксама 11 вакальных калектываў Усяго разам 144 удзельнікі з 30 школ нашага ваяводства.

У складзе камісіі былі вядомы на Беласточчыне шматгадовы арганізатар мастацкага руху інструктар музыкі Сцяпан Копа. настаўнік музыкі з бельскай музычнай школы Мілюцін Тапалянскі, методык навучання беларускай мовы Тамара Русачык і інспектар па справах культуры і асветы ў Беларускім Таварыстве Янка Мордань.

Удзельнікаў у конкурсе было так многа, што камісія вымушана была падзяліць іх таксама на старэйшых і малодшых. Хоць малодшыя — гэта зусім не значыць, што слабейшыя. Важнае было ўменне захавацца на сцэне, добры голас, падабраная песня і шмат іншых спраў.

Першае месца сярод салістаў старэйшых класаў было прызнана Тамары Назарук з Гарадчына і Івоне Іванюк з Крывой. Тамара заспявала песню „Ранняю парою" і „Дарма, Ясю, ходзіш". А Івона ў суправаджэнні гітары Валодзі Сахарчука спявала „Беларусь" і „Дубок".

Другое месца прызнана аж чатыром удзельнікам — Беатцы Белай з Беластока, Эве Заброцкай з Аўгустова, Марыі Аліфер са Старога Ляўкова і Міраславу Пракапюку з Пашкоўшчыны

Трэцяе месца — Эве Галіцкай з Нарвы, Элі Стубінскай з Новаберазова, Малгосі Салавей і Марце Верэль з Беластока.

Сярод малодшых дзяцей I месца было падзелена паміж Томкам Лукашуком з Бельскай школы № 3 і Андрэйкам Кузубам са школы ў Чаромсе. 2 месца — Малгося Такаюк з Дашоў і Пеця Баркоўскі з Беластока. 3 месца — Артур Паўлік з Райска і Эва Ласкевіч з Беластока.

Сярод дуэтаў вучняў старэйшых класаў першае месца прызнана Ясі Лукашук і Ані Кудзюк з бельскай школы № 3, II месца Басі Маркевіч і Лідзе Андрушэвіч з Беластока, Славіку Ваўрэнюку і Жэніку Шаратусе з Дубяжына, а таксама Марыі Аліфер і Басі Сухадола са Старога Ляўкова. III месца прызнана было Івоне Зубрыцкай і Касі Карабкевіч з Нарвы, а таксама Лілі Майстровіч і Ясі Гаворка з Орлі. Вылучаны былі за добрае спяванне сёстры Аня і Эля Касакоўскія з Пасынак.

З малодшых дуэтаў першага месца не атрымаў ніхто. Другое — Крыся Кучынская і Аня Внучко з Чаромхі. Трэцяе — Ёля Семянюк і Крыся Семянюк з Храбалоў, а вылучэнне — Данута Залеўская і Кася Белюк з Пашкоўшчыны.

У катэгорыі меншых калектываў — трыо і квартэтаў — сярод старэйшых дзяцей першага месца не прызналі, другое — квартэту школы ў Ляшуках і квартэту ў Старым Ляўкове, трэцяе месца — квартэту школы ў Аўгустове. Вылучыла камісія квартэт школы ў Рагачах.

З малодшых дзяцей прызнана было трэцяе месца трыо школы ў Вульцы Нурэцкай і трыо са школы ў Пашкоўшчыне. Першага і другога месца камісія не прызнала.

У катэгорыі калектываў найлепшымі з адзінаццаці былі „Нашы дзеці" з бельскай школы

(Працяг на стар 10)

## СЛУХАЙЦЕ І СПЯВАЙЦЕ!

Змяшчаем словы песні, якую вы пачуеце ў беларускай перадачы па Беластоцкаму радыё ў суботу 7 чэрвеня а 18-ай гадзіне.

### ДАРМО, ЯСЮ, ХОДЗІШ

**Дармо, Ясю, ходзіш, дармо ножкі б'еш.**
**Не пайду за цебе, бо ты водку п'еш.**
**Не пій, Ясю, піўца, ані гарэліцы,**
**Не любі дзяўчыны, ані маладзіцы.**

**Соколе, соколе, высоко летаеш,**
**Чаму ты, соколе, нічого не скажэш?**
**Якую ж я маю навіну казаці? —**
**Паехала Кася шлюбы шлюбаваці.**

**Запрагайце, хлопцы, коня вараного,**
**Поеду, зобачу, ці Кася звенчана.**
**Прыехаў наш Ясё, шапочку знімае,**
**Шапочку знімае, слёзы ўціpae.**

**Вайшоў ён у хату, стаў паміж людзямі:**
**Найхарошча Кася паміж дзеўчынамі.**
**На ёй сукня бела, вянок левандовы.**
**Агляніся, Кася, стоіць з боку Ясё.**

**Кланяюсь табе я паніжэй калена —**
**Прашу пябе, Ясё, к сабе на вяселле.**
**Шлюбуй, Кася, шлюбуй, хай Бог памагае,**
**А мне, маладому, вырасце другая.**



— Як ты мог забыць, у нас жа сёння вяселле!..






— Тут шумець нельга — запаведнік.

### НЕ БЯДА

— У мяне ёсць лішні білет на выступленне рок-групы. Пойдзем?

— Ты ж ведаеш, што я не чую на адно вуха.

— Не бяда! Другое вуха можаш заткнуць ватай.

### У ЗАДРЫПКОЎСКІХ

Пані Задрыпкоўская становіцца на вагу і радасна крычыць мужу:

— Дарагі, уяўляеш, я пахудзела на два кілаграмы!

— А ты стань на вагу пасля таго, як нафарбуешся, — скептычна адказвае пан Задрыпкоўскі.

### НАШЫ ДЗЕЦІ

— Тата! Адкуль бяруцца сланяты?

— Бачыш, дачуся...

— Толькі не расказвай мне пра бусла. Бусел яго проста не падыме.

### ЯШЧЭ НЕ ПАВЕРАЦЬ

З грузавой машыны прадаюць свежую рыбу. Надыходзіць чарга дзядзькі з вудкамі і рукзаком за плячыма. Ён старанна абмацвае карпаў, заглядае ім у рот...

— Псавацца пачала рыба. Шчэлепы ўжо пабялелі.

— Не марочце галаву! — нервуецца прадаўшчыца. — Бярыце, якая ёсць...

— Ну, вазьму, — разважае ўголас дзядзька, — а хто ж мне дома паверыць, што гэтага карпа я злавіў на вудку сёння?

### КАСТУСЬ НА ЭКЗАМЕНЕ

Кастусь здае экзамен на шафёрскія правы.

— На жаль! — гаворыць інструктар. — Вы экзамен не здалі.

— Як жа я мог яго здаць, калі я яшчэ не зрушыўся з месца?

— А як вы маглі зрушыцца з месца, калі вы селі на задняе сядзенне?



**Хто не праце, той не есць.**
**Але колькі можна піць!**

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

У выхадны дзень сустрэў п'яніца ў цэнтры горада двух даўніх сяброў.

— Складземся на трох? — прапануе.

— Я завязаў, — гаворыць адзін.

— I я, — адзываецца другі.

— Дзіўна... Чаго ж тады было з дому выбірацца?

*

У аддзеле кадраў:

— Як доўга вы знаходзіліся на апошнім месцы працы?

— Чатыры гады.

— Пахвальна. Чаму вы адыйшлі адтуль?

— Давялося. Скончыўся тэрмін.

*

На футбольным полі парыжскага стадыёна пабоішча.

— Што там дзеецца? — не можа зразумець наіўны глядач.

— Вы што, не бачыце? Лонданскія балельшчыкі б'юць суддзю.

— Але чаму? Матч жа яшчэ не закончыўся.

— Справа ў тым, што адразу пасля матча адыходзіць апошні цягнік у Лондан. Яны могуць не паспець...

### ЧУТКІ ВАРТАЎНІК

Ноччу абакралі краму.
Дзівяцца вакол.
— Ты скажы! Ўзламалі раму,
Улезлі праз акно.
— Я здзіўляюся таксама, —
Вартаўнік казаў, —
Як яны залезлі ў краму!
Я ж так чутка спаў...

**Міхась Скрыпка**

### З „Весніка Задрыпоніі"

### ВАРТЫЯ САПЕРНІКІ

Напружаным быў матч паміж камандамі „Камета" і „Метэор". Пераможац выявіўся толькі пасля двух серый адзінаццаціметровых удараў. З агульным лікам 1:0 перамагла „Камета".

### ПРАВІЛА МАЙСТРА ДУБОВІЧА

Выхоўвай у сабе пачуццё гумару — з усмешкай перанось чужыя непрыемнасці.



З чаго смяюцца суседзі.







### МАРУДЫ З РАЗЛІКАМ

Спасылаючыся на няўстойлівасць законаў у ФРГ, некаторыя адвакаты аберагаюць ад караючага мяча Феміды сваіх падабаронных, кліентаў. Так яны надоўга зацягваюць разгледжанне касацыйных скаргаў у Федэральным судзе ў Карлсруэ і такім чынам адцягваюць тэрмін заключэння іх кліентаў за турэмныя краты ў чаканні, што неўзабаве становішча можа змяніцца з магчымым прыняццем нейкага новага заканадаўчага акта. Па адной справе суддзі давялося шэсць тыдняў разбірацца ў дакументах, стос якіх быў вышынёй 3,2 метра і толькі сама скарга складалася з 365 пунктаў на 8200 старонках. Прынцып просты: пакуль што памарудзім, а там будзе відаць, можа, нешта зменіцца. Грошы ж адвакату ўсё роўна плацяць.

### МАНЯ, МАНЯ...

Прыгожая была Манька. Толькі вось бяда — падабаліся ёй многія. Нават уявіць сабе не магла, што з адным толькі будзе. Час прайшоў. У Манькі так нічога і няма. А ёй бы вельмі хацелася ўнучку.




**Ахова жывёлін — справа не столькі рук чалавека, колькі ног саміх жывёлін.**